**Са сьцягам Леніна перамаглі мы ў бойках за Кастрычнікавую рэволюцыю. Са сьцягам Леніна дамагліся мы рашаючых посьпехаў у барацьбе за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва. З гэтым-жа сьцягам пераможам у пролетарскай рэволюцыі ва ўсім сьвеце (Сталін)**


ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЕЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

7 лістапада 1931 г. № 262 (1528)

# ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

ОРГАН ЦК І МЕНГАРКОМУ ЛКСМБ




# МАЦУЙЦЕ СТАЛЕВЫЯ КРОКІ КАСТРЫЧНІКА!

**Рабочым, работніцам, колгасьнікам, бядняцка-серадняцкаму сялянству, чырвонаармейцам і ўсім працоўным БССР**

***(З адозвы ЦК КП(б)Б, ЦВК БССР, ЦСПСБ)***

Пролетарыят і працоўныя СССР і ўсяго сьвету сьвяткуюць 14 гадавіну Кастрычніцкай—першай у сьвеце пролетарскай рэволюцыі. Пад сьцягамі комунізму натхнёны ідэямі Леніна, пролетарыят на працягу 14 год атрымаў перамогі над сваім клясавым ворагам.

Рабочая кляса ударна змагаючыся на фронтах соцбудаўніцтва, выконвае пяцігодку ў 4 гады і ў радзе галін пасьпяхова ўжо скончыла пяцігадовы плян. Мэтодамі комуністычнай работы — соцспаборніцтва, ударніцтва — пролетарыят СССР ажыцьцяўляе свае задачы на фронтах будоўлі, усьведамляючы, што ён зьяўляецца ўдарнаю брыгадай рабочай клясы усяго сьвету. У гэтай будоўлі наша краіна ліквідавала беспрацоўе сыстэматычна павышае матар'яльны узровень рабочай клясы і працоўных, перабудоўвае быт, ліквідуе галечу і бяскультур'е. Высокія тэмпы індустрыялізацыі краіны забясьпечваюць тэхнічнае пераузбраеньне сельскай гаспадаркі і яе перабудову на соцыялістычных пачатках.

Грандыёзнае будаўніцтва, нябачаныя па сваёй магутнасьці электростанцыі, дзесяткі тысяч трактароў у сельскай гаспадарцы—вось з чым прыходзіць рабочая кляса СССР да 14 гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі.

Кастрычнік разьняволіў рабочыя і працоўныя масы былых прыгнечаных нацыянальнасьцяй Расіі. Рабочыя і працоўныя БССР, якія будуюць соцыялізм поплеч з ўсёю рабочай клясай СССР, адзначаюць 14 гадавіну дыктатуры пролетарыяту вялікімі посьпехамі у прамысловасьці і на палёх нашай рэспублікі. Адбываецца нябачаны рост прамысловасьці БССР. Палова ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР уступіла у колгасы

Расьце культурнае будаўніцтва—нацыянальнае на форме і соцыялістычнае па свайму зьместу БССР з адсталай аграрнай дробна-рамесьніцкай становіцца краінай з шырока разьвітаю прамысловасьцю, з шырока разьвітаю, спэцыялізаванаю на вытворчасьці тэхнічных культур і жывёлагадоўлі, сельскай гаспадаркай.

Перамогі Кастрычніка на усім прасторы вялікага СССР яшчэ ярчэй выяўляецца на фоне эконамічнага крызісу і фінансавага краху найбольш моцных імпэрыялістычных краін сьвету. Скарачаньне вытворчасьці банкруцтвы фірм і банкаў, рост беспрацоўя і галечы шырокіх мас—вось вынікі капіталістычнага гаспадараньня.

Мы стаім напярэдадні 4 га, завяршаючага году пяцігодкі, і заканчваем 3-ці, рашаючы году пяцігодкі. Перад намі вялізарныя задачы.

У радзе галін прамысловасьці БССР мы невыстарчальнымі тэмпамі выконваем абавязацельствы перад краінай. У справе загатовак мы ня досыць здавальняюча ажыцьцяўляем задачы. Буржуазныя тэндэнцыі, правы опортунізм і „лявацкія" загібы, дробна-буржуазная ўраўнілаўка маюць месца ў паасобных зьвеньнях і на паасобных вучастках нашай работы. Вялікае сьвята нашай перамогі абавязвае нас рашуча пакончыць з усякімі прарывамі ў нашай рабоце, рашуча перамагчы опортунізм, закаранелась і бюрократызм, каб яшчэ больш шпаркімі крокамі рушыцца ўперад.

*Рабочыя фабрык і прадпрыемстваў!* Разгортвайце барацьбу за сапраўднае ажыцьцяўленьне 6-ці ўмоў т. Сталіна, супроць ураўнілаўкі, супроць абязьлічкі, за лепшую організацыю рабочай сілы, за тэхніку, за ўдарныя тэмпы работы, супроць опортуністых і рвачоў, супроць хвасьціЗму і панікерства. Змагайцеся за добрую, чыстую сталоўку, за лепшае рабочае забясьпечаньне, за лепшую работу коопэрацыйнай сыстэмы, за сыстэматычнае паляпшаньне жыльлёвых і бытавых умоў жыцьця, за політэхнічную школу і рост усёй нашай соцкультуры.

*Таварышы транспортнікі!* Мобілізуйце ўсе сілы і сродкі на канчатковую ліквідацыю абязьлічкі, на замацаваньне спаранай язды, змагайцеся за якасьць рамонту, дайце соцыялістычнаму транспорту здаровы паравоз і вагонны парк. На аснове пастаноў кастрычніцкага пленуму ЦК УсеКП(б) організуйце штурм прарываў і мэтодамі соцспаборніцтва трымайцеся за бальшавіцкія тэмпы рэконструкцыі чыгуначнага транспорту.

Колгасьнікі і рабочыя саўгасаў! Біцеся за правільную організацыю працы, за добрае ўтрыманьне машын, за правільнае скарыстаньне рабочае сілы, за зьдзельшчыну і організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і правільнае разьмеркаваньне колгасных даходаў, за поўнае выкананьне загатоўчых заданьняў, за зябліва, за поўнае выкананьне пасеўных заданьняў, за сьвіньню, за разьвіцьцё гурту, за разгортваньне малочнай гаспадаркі. Разгортвайце па ўсіх гэтых лініях соцспаборніцтва ўдарніцтва. Няхай імем 14 гадавіны Кастрычніка ствараюцца новыя тысячы ўдарных брыгад на палёх БССР.

*Рабочыя, колгасьнікі, серадняки і бедняки вёскі, працоўныя жанчыны!*

У барацьбе за новыя заваёвы ўзбройвайцеся ваеннымі ведамі, умацоўвайце сувязь з Чырвонай арміяй, будзьце гатовы да абароны сваёй соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Ператворым Савецкую Беларусь, былую царскую „акраіну", у краіну соцыялістычнай індустрыі і буйнай колектыўнай сельскай гаспадаркі.

За няўхільнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай політыкі. Даць рашучы адпор вялікадзяржаўнаму шовінізму, як галоўнай небясьпецы.

За беларускую нацыянальную культуру па форме, соцыялістычную па зьместу.

*Няхай жыве дыктатура пролетарыяту!*

*Няхай жыве сусьветны Кастрычнік!*

*Няхай жыве Комінтэрн!*

*Няхай жыве УсеКП(б)—кіраўнік соцыялістычнага будаўніцтва!*

*Няхай жыве КП(б)Б — верны атрад УсеКП(б).*

**ЦК КП(б)Б ЦВК БССР ЦСПСБ**









